Cena 60 gr.

# Ніва

NIWA
Tygodnik Z.G. Białoruskiego
Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego

Цана 60 гр.

Тыднёвік
Г.П. Беларускага
грамадска-культурнага таварыства

№ 35 (131) БЕЛАСТОК, 31 ЖНІЎНЯ 1958 года ГОД III

# БАЦЬКІ, НАСТАЎНІКІ, МОЛАДЗЬ!

2 верасня панадворкі і класы нашых школ зазвіняць галасамі шчабятлівай дзетвары. Яна прыдзе ў адсвежаныя, пахучыя фарбай і вапнай залы, каб прадоўжваць сваю вучобу.

Каля двух тысяч беларускіх дзяцей першы раз у жыцці пераступяць школьны парог, каб пазнаць таямніцу літар і лікаў, і, каб пад апекай настаўнікаў рыхтавацца да актыўнага ўдзелу ў жыцці сваёй краіны.

Урачысты гэта момант. Надоўга ён застаецца у памяці і вучняў і бацькоў.

І таму, перад усім, звяртаемся да вас, бацькі! Аддайце сваім дзецям тое, што да іх належыць: не адрывайце іх ад вучобы. Хоць часам і цяжка будзе вам у працы, усё ж такі, не забірайце дзецям права на святло навукі, на шчасце стаць светлым чалавекам.

Звяртаемся і да вас, настаўнікі, умудраныя вопытам шматгадовай працы ў школе, і да вас, маладыя, што першы раз з хваляваннем увойдзеце ў клас як самастойныя педагогі! Навучыце наша маладое пакаленне кахаць родны край, сваю родную мову, навучыце працаваць, шанаваць сваіх бацькоў і працу людскіх рук.

Звяртаемся і да вас, наша моладзь! Не траціце часу. Здабывайце веды! Працуйце над сабой на славу сваім бацькам і на карысць нашай краіне.



## Нарада старшынь і сакратароў аддзелаў БГ-КТ

25 жніўня г. г. у памяшканні Галоўнага Праўлення Беларускага грамадска - культурнага таварыства ў Беластоку адбылася нарада старшынь і сакратароў Аддзелаў Таварыства. Мэтай нарады было паляпшэнне працы паасобных адзелаў Таварыства. З ацэнкі дагэтуляшняй працы Аддзелаў Таварыства вынікае, што, нажаль, яшчэ ў некаторых Аддзелах адсутнічае сувязь з грамадствам беларускай вёскі і таму ў гэтым асяроддзі няма шырэйшай актыўнасці. Найчасцей штодзённая праца Таварыства апіраецца на штатных сакратарах, якім мала памагаюць Праўленні Аддзелаў. Некаторыя Аддзелы не апіраюцца ў сваёй працы на шырэйшым актыве. Нажаль дагэтуль не ўключыліся ў працу Таварыства многія члены Галоўнага Праўлення.

На нарадзе пастаноўлена склікаць у тэрміне да 15 верасня г. г. пасяджэнні праўленняў Аддзелаў з мэтай падрыхтоўкі другога Пленума ГП БГ-КТ, які адбудзецца 27—28 верасня г. г. Пленум Таварыства ў першую чаргу абмяркуе справу паляпшэння працы Аддзелаў БГ-КТ і ўмацавання сувязі з беларускім грамадствам.

В. Ш.

## Да выпускнікоў сярэдніх школ

Падаем да ведама, што ў другой палове верасня адбудуцца ўступныя экзамены на аддзяленне беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Кандыдаты на гэтае аддзяленне будуць здаваць наступныя экзамены: пісьмовы — па беларускай або рускай мове, вусны — па польскай і беларускай літаратуры. Дакументы трэба дасылаць да 10 верасня г. г. па адрасу.

Uniwersytet Warszawski, Dziekanat Wydziału Filologicznego. Krakowskie Przedmieście 26/28.

## ВЫСТУПЛЕННЕ БЕЛАРУСКАГА МАСТАЦКАГА КАЛЕКТЫВУ ПЕСНІ І ТАНЦА У БЕЛАСТОКУ

У перапоўненым да апошняга, не толькі седзячага, а нават і стоячага, месца ў беластоцкім тэатры імя А. Вянгеркі 25 жніўня г. г. адбылося выступленне Беларускага мастацкага калектыву песні і танца пад мастацкім кіраўніцтвам Г. Зюлкоўскай і Т. Гіжэўскай. Выступленне было экзаменам перад паездкай калектыву на двухтыднёвае турнэ па БССР. Экзамен выпаў надзвычай добра. Выступленне глядзела каля 1.000 асоб у Беластоку.

Вынікі гэтыя сведчаць аб вялікім укладзе працы так кіраўніцтва, як і ўсіх членаў калектыву ў падрыхтоўку багатай новай праграмы, з якой калектыў распачынае канцэрты.

Яшчэ перад паездкай у БССР калектыў наведае многія мясцовасці Беласточчыны. 31 жніўня калектыў выступіць на павятовых дажынках у Саколцы.

В. Ш.



## Бярыце прыклад з Новай Волі

Маладыя самародныя акцёры, дзяўчаты і юнакі з Новай Волі (Беластоцкі павет), ўжо некалькі год выступаюць з пастаноўкамі на сцэнах навакольных вёсак і мястэчак.

Днямі яны арганізавалі пастаноўку «Паўлінкі» Я. Купалы ў Рыбаках. Сяляне Рыбакоў і навакольных вёсак вельмі цёпла прынялі таленавітых самадзейных акцёраў. На пастаноўцы прысутнічала каля 100 гледачоў.

У наступную нядзелю калектыў плануе выезд у Гайнаўскі павет, у Нараўку.

Пахвальна і тое, што сабраныя з пастановак грошы прызначаюць гурткоўцы для важных грамадскіх мэт. Даходам з пастановак ў Рыбалах гурткоўцы дапамаглі Пажарнай стражы ў Новай Волі купіць мотапомпу. Даход з пастаноўкі ў Нараўцы маюць намер накіраваць на абсталяванне памяшкання Беластоцкага Аддзела БГ-КТ у Міхалове і на куплю адаптара для грамадскай святліцы ў Новай Волі.

Членам нававольскага драмгуртка жадаем вялікіх поспехаў ў іх працы. Іншым жа нашым драмгурткам раім браць прыклад з Новай Волі і шырэй разгортваць сваю дзейнасць.

(мг)

## Яшчэ адзін гурток БГ-КТ

Павятовы аддзел БГ-КТ ў Міхалове штораз больш разгортвае сваю дзейнасць.

Нядаўна, па ініцыятыве сакратара Аддзела грам. Івана Серады, арганізаваны новы гурток у вёсцы Бандары. Гурток налічвае ўжо 11 членаў. Гэта пераважна моладзь. Старшынёй гуртка выбраны Аляксандр Хлябіч. На пачатак працы гурток пастанавіў сарганізаваць калектыў мастацкай самадзейнасці і наладзіць літаратурныя вечары.

(вб)

# ЛІТАРАТУРНАЯ СТАРОНКА

№ 3

Трыбуна Беларускага літаратурнага аб'еднання ў Беластоку


## БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ

Спявала дзяўчына мяжой ідучы.
(Навокал было жыта
і сонца праменні,
і быў мак...)
Загарэўся ёй серп на плячы,
а ў вачах васількі,
а твар быў ў натхненні.
А з той песні біў чар,
каля сэрца калоў...
Прытаіўся я,
вочы заплюшчыў...
І пачуўся мне шэпт ёлак, хвояк, дубоў,
і бяроз, і алешын
наднёманскай пушчы.
Ручай і асіна заводзяць гаворку.
Заскрыпела сасна.
Заяц скочыў у гушчу.
З-за пня заблішчэлі вочкі вавёркі.
Недзе дзяцел застукаў,
кукавала зязюля,
над ракой на вярбе заспяваў салавей.
Пчолы з песняй займалі
новы дом — дупло — вулей.
А над Нёманам луг — мора красак і траў.
Вока гіне у далі бясконцай.
Страказа тут і пчолы,
Ціха шмель зайграў,
матылькі - красуны купаюцца ў сонцы.
Успорхнулі качкі.
Дзяркач закрычаў.
Адклікнуўся бусел з дуба...
А сонца ўсё свеціць,
а кветкі ўсё пахнуць!
А сэрцу так цёпла, так люба!
Я слухаў, глядзеў
і ўжо думаць пачаў:
«Эх, прысніўся мне сон, якіх мала!»
А гэта толькі...
дзяўчына спявала
(дзяўчына з васількамі ў вачах),
беларускую песню спявала.

АЛЕСЬ СВІСЁК

## БУРА

Гарачы дзень ад поту горкі
Мінуў, прайшоў. І ў небе зоркі,

Як іскры з вогнішча багоў,
Заззялі сотнямі агнёў.

Кругом было спакойна, глуха,
І штось шаптала мне да вуха,

Што ноччу буры чакаць трэба,
Што буйны дождж пальецца з неба,

Напоіць землю, дрэвы ў лесе,
Красуні - кветкі, мох на стрэсе,

Размые вогнішчы старыя.
З краін далёкіх вятры злыя

Прыгналі цяжкіх хмараў рой,
Забралі радасць, сон, спакой.

Пагаслі зоркі, што нядаўна
Яшчэ гарэлі. Здавен - даўна

Не бачыў хмары я такой,
Так вельмі страшнай, такой злой.

Яна маланкаю гарэла,
Пад ёй зямля траслася, млела,

І залівалася дажджом,
Што ліў вадою і агнём.

Хмара хацела целам цяжкім
Прыкрыць зямлю і бічом важкім

Утканым з грому і маланкі,
Свістала людзям калыханкі.

Гэтая песня — кліч трывогі —
Раніла сэрца, гняла ногі

А вецер раў што мог, змагаўся,
Магло б здавацца — задыхаўся —

І з сілай страшнай нёс знішчэнні,
У дугу гнуў дрэвы, раў каменні,

Аб сцены біў магутнай хваляй,
Смяяўся, роў і нёсся далей.

Кожны з людзей у тую пору,
Падняўшы вочы дзесь угору

І з нейкай думкаю трывожнай,
Чакаў чагось, як толькі можна
Спакойна.

Бура заціхала,
Ішла далей дажджу навалай

Пад ногі слаўшы сабе дрэвы.
Яе трывожна-злыя спевы

Знікалі дзесці там далёка,
Дзе толькі цяпер бачыць вока.

МІКОЛА КРАСОЎСКІ

* * *

Прыляж ля мяне вецярок,
ды памарым аб долі людзей —
я з думак спляту ім вянок,
Ты сарочкі спацелы абвей.

* * *

Сонейка свеціць, смяецца і грэе,
зоркі міргаюць вачамі без ліку,
з мудрасці свет наш, нябога, сівее —
а так цяжка ў ім жыць чалавеку.

ЯН СТАНІСЛАЎ

## ХВІЛІНА

Настурка пагасае за акном,
Расходзіцца мацейкі арамат...
А пацалунак твой гарыць агнём,
І сэрца б'ецца нібы аўтамат.
І рукі, як ліяны, апляліс,
Дыханне пахне свежаю вясной,
І шчокі дзве румянцам заліліс
І грэе ўсё прыемнай цеплынёй.
І міг — на край раскошы мы сышлі
І ўпалі ў бездань новых адчувань..
Як ручаі прадметы ўсе зліліс
У цемру — неабдымны акіян.
Здавалась нам, што ў прорву пустаты
Мы ўпалі з велізарнай вышыні,
І ў хвалях ночы, ў моры чарнаты,
Як мэтэор, ныралі ў цішыні.
Тады ў адно жаданне мы зліліс,
Адзіна сэрца стукала ў грудзях,
Адзін агонь палаў нам у крыві,
Адзіна радасць бліскала ў вачах.
Пачуцці нашы дасяглі вяршынь
І расцвілі, як дзіўных руж букет, —
І лёгка, лёгка стала на душы,
Як нанава радзіліс мы на свет.
Ад радасці забылі мы тады
Аб розных жахах нашага жыцця,
І ўсім пачуццем нашым маладым
Хацелі жыць так доўга, без канца.
Аж раптам нам здалось, што мы знайшліс
У цёмнай ночы на пуховым дне...
Калі мы да прытомнасці дайшлі
Яшчэ зусім не змеркнула ў акне.

ДЗМІТРЫ ШАТЫЛОВІЧ

ЯНКА ДУБІЦКІ

## ПА ШЧЫРАСЦІ

У хату хутка ўбег Лёва. Расхрыстаны, з незашпіленым паліто, з шапкаю на бок, ён выглядаў непрыстойна для вучня. Маці яго, яшчэ маладая кабета, мыла пасуд. Лёва абвёў хату позіркам і швырнуў сумку ў куток.

— Мама, я не хачу вучыцца беларускай мове. Насця Пятроўна звярнулася да яго і, здзіўлена запытала:

— Чаму ж то?

— Не хачу і ўсё! — скідаючы паліто, прабармытаў Лёва. — Што я маю за яе астацца ў шостым класе на другі год?

— Што сталася, га? — яна ніколі не крычала на яго. Падышла.

— Скажы, сынок.

— Што буду казаць? — Лёва скінуў з плеч мацярынскую руку. — Рыжая гэту двойку паставіла вось што! — і ён цэлы затросся.

Насця Пятроўна не ведала, што рабіць; яе рука мімавольна гладзіла сына.

— Нічога, Лёва, нічога. На наступны раз навучышся, паправіш.

— Не хачу вучыць яе. Яна мне не патрэбна. Куды я з ёй пайду?

Маці не было, чаго казаць сыну. Яна сама была няўпэўнена.

— Бо і праўда, — думала яна. — Куды прычапіць тую мову? Яна адыйшла ад сына, стала насупраць акна, успомніла сваё жыццё ад самых малых год. Усё яно бурнае, а іхняй веры, іхняй мове не было прыпынку.

— Каб што перакусіць!

Моўчкі дастала талерку, дала сыну есці. Лёва доўга мучыўся над ежай, потым дастаў з шафкі кніжку, разлёгся на ложку і пачаў чытаць. Маці зноў узялася за работу, але нешта яна не ішла.

Памалу находзіў вечар. Мрок лез у хату, віўся пад столлю, шарэлі куткі, прадметы ў хаце набіралі фантастычнага выгляду, чарнела. Калі чытаць стала зусім цёмна, Лёва закрыў кніжку, пацягнуўся і ўстаў. Са стала ўзяў некалькі школьных падручнікаў і сунуў іх у сумку. Потым, накінуўшы шапку, накіраваўся да дзвярэй.

— Ты куды? — запытала лагодна маці.

— Што, маю ўсё ў хаце сядзець? Пайду... пагуляю.

— А вучыцца калі?

— Я і так знаю, без навукі, — адказаў сын.

Хтось ціха пастукаў у дзверы.

— Калі ласка, можна!

У адчыненых дзвярах паказалася знаёмая постаць і Лёва паволі працягваў руку да шапкі. Перад ім стаяла яго настаўніца Антаніна Іванаўна.

— Добры вечар! — сказала.

— Добры вечар! Калі ласка, заходзьце, сядайце. — Насця Пятроўна запрашала, як магла.

Антаніна Іванаўна села, а тым часам гаспадыня запаліла лямпу і павесіла на сцяне.

Лёва ўсё стаяў пры дзвярах, не рашаючыся выйсці за парог. Апусціўшы галаву, ён глядзеў сабе пад ногі. Настаўніца і маці маўчалі, і яму здавалася, што ён не вытрымае гэтага спакою, цішыня калола ў вушы, твар гарэў.

— Хто ж гэта ў вас стаіць пры дзвярах, Насця Пятроўна? — падмаргнуўшы, запытала настаўніца. — Ці не які падарожнік просіцца нанач?

Тут яна не вытрымала і засмяялася.

— Ды ты не крыўдуй на мяне і не бойся. Калі падрыхтаваў урокі на заўтра, можаш пайсці пагуляць. Я дазваляю. Як, Насця Пятроўна, згодны вы са мною?

— Згодна, згодна ва ўсім.

Лёва адышоў ад дзвярэй і сеў каля стала. Настаўніца паглядзела на яго і потым хутка пачала гаварыць.

— Прабачце мне, Насця Пятроўна, можа я вам перашкаджаю. Мне хочацца сказаць пару слоў, можа нават непрыемных адносна вашага сына.

Насця Пятроўна папраўіла на галаве хустачку і прысела на прыпечку.

— А можа ты раскажаш? — Антаніна Іванаўна звярнулася да Лёвы, які моўчкі шоргаў нагою па падлозе. Той заварушыўся і ўсё, крэслячы нагою нейкія знакі на падлозе, адказаў:

— Вы... кажыце.

— Што, не маеш адвагі? — яна павярнулася да гаспадыні.

*(Працяг на стар. 6)*

## АБМЕРКАВАННЕ П'ЕСЫ

17 ліпеня г. г. у Літаратурным аб'яднанні пры рэдакцыі «Нівы» была абмеркавана п'еса члена Аб'яднання Сяргея Кручка п. з. «Ануфры авансуе».

П'еса складаецца з трох актаў, акцыя разгортваецца на Беласточчыне ў гадах пасля вызвалення, а пасля пераносіцца на кастрычнік 1956 года.

Адзначана было, што аўтар мае здольнасці ў кірунку драматургіі, але п'еса мае шмат недахопаў, якія неабходна выправіць.

# Прырода і атамныя выбухі

(Глядзі пачатак у 34 Нр.)

Да ўскоснага праяўлення вынікаў выбухаў на атмасферныя з'явы адносяцца памутненне — змяншэнне празрыстасці атмасферы для праходжання сонечных праменняў, некаторае павелічэнне колькасці выпадаючых ападкаў і павышэнне радыёактыўнасці і кіслотнасці паветра.

Празрыстасць атмасферы залежыць ад наяўнасці ў ёй кропель вільгаці, крышталікаў лёду і частак пылу. Ад іх адлюстроўваюцца і рассейваюцца сонечныя прамені, якія ідуць праз слой атмасферы да паверхні Зямлі. Добра вядома змяншэнне празрыстасці паветра над вялікімі прамысловымі гарадамі, а таксама ў выніку вялікіх вывяржэнняў вулканаў, якія выкідваюць у атмасферу велізарныя масы попелу і пылу. Аслабленне патоку сонечных праменняў пры забруджванні паветра пылам прыводзіць да зніжэння тэмпературы на паверхні зямлі.

Пры наземных атамных і вадародных выбухах у атмасферу падымаецца вялікая колькасць грунту, раздробленага на маленечкія часткі. Больш буйныя з іх параўнаўча хутка выпадаюць на зямлю, а малыя застаюцца ў атмасферы, утвараючы пылавыя воблакі, якія перамяшчаюцца патокамі паветра. Паводле прыблізных падлікаў, наземны выбух вялікай вадароднай бомбы можа ўзняць у атмасферу да некалькіх дзесяткаў мільёнаў тон грунту. Але і такая вялікая колькасць паднятага выбухам пылу не можа зрабіць істотнага ўплыву на празрыстасць атмасферы і выклікаць прыкметнае зніжэнне тэмпературы на паверхні Зямлі.

Да ўскосных уплываў ядзерных выбухаў на метэаралагічныя з'явы трэба залічыць змяненне электрычных уласціваасцей атмасферы, якое мае працяглы характар. Утвораныя пры выбухах у велізарнай колькасці радыёактыўныя часцінкі ператвараюць незараджаныя малекулы паветра ў зараджаныя часцінкі — іёны; такі працэс называюць іянізацыяй атмасферы. Каля іёнаў пачынаецца кандэнсацыя вадзяной пары і ўтварэнне кропель дажджу. Значыць, павелічэнне радыёактыўнасці атмасферы павінна суправаджацца выдзяленнем ападкаў пры той жа воблачнасці. Але гэты ўплыў выбухаў на выпадзенне ападкаў параўнаўча невялікі.

Навукай, бясспрэчна, устаноўлена наяўнасць вельмі важных змен у саставе атмасферы, як асяроддзя, у якім жыве чалавецтва на зямным шары. Вынікамі праводзімых імперыялістычнымі краінамі выпрабаванняў ядзернай зброі з'явіліся рассейванне па ўсёй паверхні Зямлі радыёктыўных прадуктаў ядзерных выбухаў і ўтварэнне радыёактыўнасці глебы, вады і паветра.

Побач з іншымі відамі энергіі на жывы арганізм робіць уплыў прыток ядзернай энергіі. Вынікамі радыёактыўнага выпраменьвання з'яўляюцца радыёактыўныя элементы, рассеяныя па ўсёй зямной кары, а таксама слабы прыток на Зямлю касмічнага выпраменьвання.. Радыёактыўнае выпраменьванне можа рабіць уплыў на ўсе тканкі жывога арганізма. Падобныя на рэнтгенаўскія прамені, гама - прамені і нейтроны здольныя пранізваць усё цела чалавека наскрозь. Вось чаму гэтыя віды ядзернага выпраменьвання атрымалі назву пранікаючай радыяцыі. Жывы аргнізм не мае абароннага прыстасавання і павелічэнне прытоку ядзернай энергіі для чалавека і жывёлы з'яўляецца вялікай пагрозай. Кожны новы ядзерны выбух пакрывае слоем радыёактыўных рэчываў усю зямную паверхню. Выбар для выпрабаванняў ядзернай зброі маланаселеных раёнаў зямнога шара не засцерагае ад небяспекі, якая пагражае ўсяму чалавецтву.

Радыёактыўныя рэчывы, якія ўтвараюцца ў велізарнай колькасці пры выбухах, нясуць пагібель усяму жывому на працягу дзесяткаў і соцень год. Сярод прадуктаў ядзерных выбухаў асаблівую небяспеку для чалавецтва ствараюць стронцый — 90 і цэзій — 137. Яны адносяцца да доўгажывучых радыёактыўных рэчываў, таму з кожным новым выбухам заражанасць імі зямной паверхні няспынна павялічваецца. Пранікаючы са стравай у арганізм чалавека, стронцый выклікае рак касцей і крыві, цэзій, апраменьваючы ўсе тканкі і клеткі арганізма, робіць асабліва небяспечны ўплыў на патомства чалавека — выклікае нараджэнне непаўнацэнных, хворых дзяцей.

Прыкрываючы сваё нежаданне спыніць ядзерныя выпрабаванні, імперыялісты ЗША спрабуюць сцвярджаць аб магчымасці стварэння імі «чыстай» вадароднай бомбы, нібыта не выклікаючай радыёактыўнага заражэння атмасферы. Але гэтыя сцвярджэнні абвяргаюцца навукай.

С. БОБАУ.

*Вучыся ўмеру добрым манерам*

## Як трэба сядзець пры абедзе?

Уменне сачыць за сабой, праяўляецца ў прыгожай манеры есці з захаваннем неабходных гігіенічных і эстэтычных патрабаванняў. Нельга садзіцца за стол не памыўшы рук. У час яды прынята сядзець проста, недалёка і не занадта блізка ад стала, не схіляцца занадта нізка над талеркай, а таксама не навальвацца грудзьмі на стол і не аблакочвацца. Ногі трэба ставіць ля крэсла, а не выцягваць іх пад сталом.

Некаторым уласціва дрэнная звычка — у час абеду праглядаць, або чытаць газеты, кніжкі. Займаючыся адначасова двума справамі, яны проста не могуць сачыць за тым, каб есці акуратна і прыгожа, не гаворачы ўжо, што гэта перашкаджае нармальнаму засвойванню ежы. Не варта ў час абеду весці занадта ажыўленыя размовы. Непрыгожа выглядае чалавек, у якога рот набіт хлебам і ён у той жа час размаўляе.

За сталом нельга жэстыкуляваць не толькі тады, калі ў вашых руках нож, відэлец, лыжка, або які-небудзь іншы прадмет, але нават і тады, калі вашы рукі свабодныя.

# ДА ШЧЫРАСЦІ

(Працяг са стар. 3)

Мне самой непрыемна гаварыць аб такіх справах, але трудна. У гэтым выпадку я мушу гэта зрабіць. Ваш сын, Насця Пятроўна, не вучыцца. Прыходзіць на ўрокі без падрыхтоўкі, уцякае з урокаў, ды падбурае яшчэ і іншых. А гэта ўжо... — настаўніца гаварыла і гаварыла, але словы праходзілі міма вушэй мацеры. Перад ёю, вось як зараз устаў момант, калі нарадзіўся яе сын. Была тады восень. Яна ляжала ў ложку і бачыла праз акно, як у паветры носяцца жоўтыя лісткі і паволі падаюць на зямлю. Сын хутка пачаў расці. Калі яму было два гады, памёр бацька. І так гадаваўся ён з адной маткаю паўсіратой. Падрастаў, разумнеў... Памагаў калі-некалі каля хаты. Не шкадавала яму нічога. Ён быў у яе адзін і яна верыла ў яго, будуючы вялікія планы на будучыню. А цяпер? Яе сын не вучыцца. Не слухае настаўнікаў.

Стаяла на крыжавых дарогах. І ёй была няясна гэтая справа. Глянула на настаўніцу, калі тая змоўкла.

— Вось усё, што я хацела вам асабіста сказаць.

— Дзякую, сардэчна дзякую, — адказала Насця, хаця астатніх слоў не чула.

Антаніна Іванаўна павярнулася да Лёвы, і тут яе позірк сустрэўся з бліскучымі вачыма Лёвы.

— І з табою, дзіцё маё, хачу пагаварыць я шчыра. Без навукі, як без рук...

Лёва спачатку не глядзеў на настаўніцу — яму было сорамна, і гэты сорам за ўсе яго дрэнныя ўчынкі цягнуў галаву ўніз. А дзе ж падзець вочы?

А Антаніна Іванаўна гаварыла і гаварыла, і здавалася не будзе ўсяму гэтаму канца. Лёва раптам адкрыў, што словы настаўніцы былі праўдзівыя. А яму здавалася ўсё такім лёгкім, усё на хуткую руку. Не, братку, жыццё не такое простае і добрае, жыццё трэба здабываць у пастаяннай барацьбе. А цяпер якія ж мудрыя словы гаворыць тая кабеціна, у накінутым цёпленькім жакеціку, а вочы, можа крыху і блакітныя, так і свідруюць наскрозь. А ці ж ня праўда, што ён не вучыўся? Ці ж няпраўда, што ўцякаў з урокаў? Правільна! Правільна! хацелася сказаць у голас, каб настаўніца, мілая настаўніца, не нервавалася.

Ціха сядзеў ён і слухаў, ды штораз вышэй падымаў галаву. Глядзеў на настаўніцу, глядзеў — не зводзячы з яе вачэй. Першы раз убачыў Антаніну Іванаўну, тую пажылую кабету, такой прыгожай.

Жаль закруціўся ў малой душы, штось рвалася з глыбінь, не давала аддыхаць і наганяла слёзы ў вочы. Але Лёва стрымліваўся, бо ён знаў, што плач — гэта ўнутраная слабасць чалавека, а ён цвёрда пастанавіў ад сёння, ад зараз, папраўіцца. Ён усё пераможа, здужае, і павінен.

І калі настаўніца запытала яго, ці ён зразумеў галоўны той сэнс, аб чым гаварыла, і ці не думае папраўіцца, Лёва, як бы гэта было ў школе, спахваціўся і, гледзячы проста ў вочы Антаніне Іванаўне, адказаў:

— Так... — і цішэй. — Я... сам хачу...

Каля поўначы ў хаце Насці Пятроўнай яшчэ свяціўся агонь, а Лёва, скуліўшыся пры стале, пільна глядзеў ў падручнік.

Святло з хаты выпадала праз акно і асвятляла цемру.

ЯНКА ДУБІЦКІ

*Парады гаспадарам*

## ПРЫГОЖЫЯ ХАТЫ

*На беларускай вёсцы мала яшчэ сустракаецца такіх хат, як бачыце на здымках. Хто ж не хацеў бы мець такой хаты! Не думайце, што яны пабудаваны з цэглы. Гэта яшчэ за дорага каштавала б. Гэтыя будынкі пабудаваны з самых звычайных матэрыялаў, якія ёсць у кожнай аколіцы.*

*Аб тым, як танна, добра і хутка будаваць, параду і дапамогу кожны атрымае ў павятовым праўленні сельскагаспадарчых гурткоў і арганізацый.*



*Гэты дом пабудаваны з тарфяных цэглаў і бетонных слупаў.*



*Жыллёвы будынак з жэрдак, аплеценых наглінеными саламянымі пярэвяслами.*



*Сцены будуюцца з апалавага дрэва, сасновай і асінавай кары з вапнай.*



*Домік, пабудаваны з апалавага дрэва з вапнай.*

